# Голас Радзімы

№ 24 (2114)
15 чэрвеня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





● Загадчык кафедры квантавай радыёфізікі, прафесар, доктар фізіка-матэматычных навук І. МАЛЕВІЧ.
● Эксперымент праводзіць загадчык лабараторыі В. СТЭЦЫК.
● Навуковы супрацоўнік Таццяна МАЦВЕЕНКА.
● Намеснік загадчыка аддзела Ю. ГОЛУБЕЎ і старшы навуковы супрацоўнік П. КАМАР рыхтуюць апаратуру для аэракасмічных здымак.



Праз ілюмінатар касмічнага карабля Зямля паўстае ў чароўнай гармоніі фарбаў, пакрытая вэлюмам атмасферы. Сучасныя прыборы дазваляюць пранікнуць за гэту заслону таямнічасці, і тады наша планета з'яўляецца на экранах дысплеяў у дакладных матэматычных характарыстыках сушы, акіяна, паветра...

Многія з такіх прыбораў створаны беларускімі вучонымі. На арбітальных станцыях «Салют» і «Мір», на самалётах і верталётах яны выдатна зарэкамендавалі сябе ў час атрымання характарыстык асноўных класаў прыродных фарміраванняў.

Нядаўна беларуская навука папоўнілася новым падраздзяленнем. Пры Беларускім дзяржаўным універсітэце створаны цэнтр дыстанцыйнай аэракасмічнай дыягностыкі прыродных рэсурсаў Зямлі. Бліжэйшая мэта — пошук новых метадаў дыягностыкі і стварэнне мабільнага комплексу прыбораў. З-за адставання ў аператыўным кантролі і дыягностыцы навакольнага асяроддзя мы адчуваем цяжкасці ў вырашэнні буйнамаштабных сельскагаспадарчых, меліярацыйных, тэхнічных праблем. Праграма цэнтра прадугледжвае забеспячэнне эксперыментальнай апаратурай зацікаўленых ведамстваў рэспублікі.



## НА З'ЕЗДЗЕ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ СССР

# НЕЗАГОЙНАЯ РАНА ЧАРНОБЫЛЯ

У Маскве, на З'ездзе народных дэпутатаў СССР, выразна праявілася галоўная тэндэнцыя, нечуваная на падобных форумах дасюль: гаварыць шчыра і адкрыта пра набалелыя праблемы, не прыхарошваючы стан нашай эканомікі, экалогіі, культуры, духоўнасці. Агульная карціна гэтых праблем складаецца з пэўных яе частак, характэрных для кожнага рэгіёна.

Для Беларусі найбольш балючым з'яўляецца пытанне: як жыць пасля чарнобыльскай аварыі? Прайшло ўжо тры гады, як здарылася гэта бяда, а вынікі чарнобыльскай аварыі яшчэ не ліквідаваны, нягледзячы на вялікія намаганні рэспублікі. Ды і ці пад сілу нам адным зрабіць усё, каб людзі маглі спакойна жыць і быць упэўненымі ў будучыні сваіх дзяцей? Таму не дзіўна, што большасць дэпутатаў ад Беларусі, якія выступалі ў дыскусіі па дакладу Старшыні Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачова, спыніліся менавіта на гэтым пытанні.

### Дэпутат Я. САКАЛОЎ, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі:

...Працягваецца тая ж заганная практыка распылення і закопвання народных сродкаў, амярцвення асноўных фондаў дзяржавы. І гэта ў той час, калі ва ўзмацненні ўвагі маюць патрэбу сферы, звязаныя з надзённымі пытаннямі жыццезабеспячэння чалавека. У радзе ж выпадкаў — не проста надзённымі, але і неадкладнымі. Такімі, скажам, як ліквідацыя вынікаў чарнобыльскай бяды.

Час не прытупіць боль у сэрцах жыхароў Беларусі, дзе радыеактыўнаму забруджванню падвергласся 18 працэнтаў сельскагаспадарчых угоддзяў. Калі на першым этапе па гэтаму пытанню дзейнічала саюзная ўрадавая камісія, то цяпер яе намаганняў амаль не адчуваецца. За тры гады камісія так і не змагла забяспечыць распрацоўку пераканаўчай і глыбока прадуманай канцэпцыі бяспечнага пражывання, якая гарантавала б здароўе і наступных пакаленняў. На нашу думку, пазіцыя тут павінна быць адназначнай. Там, дзе немагчыма карыстацца прадукцыяй са свайго падвор'я, жыць нельга. І гэта не той выпадак, калі трэба эканоміць.

### Дэпутат А. ГРАХОЎСКІ, старшыня выканкома Гомельскага Савета народных дэпутатаў:

Мы выпакутавалі гэту бяду з першых дзён аварыі. І сёння нясём цяжар яе вынікаў на сваіх плячах. А ноша наша не з лёгкіх, таму што па ўдзельнай вазе забруджанай тэрыторыі на еўрапейскай частцы СССР Гомельская вобласць займае вядучае месца.

У першыя часы мы не засталіся ў горкім адзіноцтве, на дапамогу прыйшла ўся краіна, дзякуючы чаму быў ажыццёўлены комплекс работ па вырашэнню першачарговых задач. Аднак прымаемыя меры не зніжаюць вастрыню сітуацыі. Радыяцыйная абстаноўка на тэрыторыі вобласці застаецца складанай. Практычны вопыт і навуковы прагноз паказваюць, што істотнага паляпшэння сітуацыі ў бліжэйшыя гады чакаць не прыходзіцца.

Мы ў тры этапы правялі эвакуацыю насельніцтва. На сёння ў вобласці ёсць населеныя пункты, у якіх правядзенне аграмеліярацыйных мерапрыемстваў у комплексе з інжынернай дэзактывацыяй і добраўпарадкаваннем не гарантуе бяспечнае пражыванне людзей. Трэба будзе зрабіць яшчэ адно, чацвёртае адсяленне. Але для таго, каб яно было апошнім, трэба самым сур'ёзным чынам разгледзець радыяцыйную абстаноўку і магчымыя дозавыя нагрузкі па кожнаму населенаму пункту асобна.

Лічу, што будзе дарэчы звярнуцца да вучоных у цэлым. І заклікаць вас, паважаныя таварышы вучоныя, да значнай актывізацыі ўсёй навукова-даследчай работы на нашым чарнобыльскім палігоне, які, не на крыўду вам сказана, з'явіўся вынікам і вашай дзейнасці. На жаль, за тры гады пасля аварыі мы не атрымалі эфектыўнай тэхналогіі, механізмаў і сродкаў для дэзактывацыі населеных пунктаў і сельскагаспадарчых угоддзяў, застаўся нявырашаным цэлы рад іншых праблем і пытанняў.

У сувязі з адчужэннем немалой часткі зямель, а таксама неабходнасцю забяспечваць насельніцтва на забруджанай тэрыторыі прывазнымі мяса-малочнымі прадуктамі ў вобласці сур'ёзна ўскладнілася харчовае пытанне. Урон, нанесены вобласці, яе патрэбнасці па забеспячэнню насельніцтва прадуктамі харчавання ў адпаведнасці з навукова абгрунтаванымі медыцынскімі нормамі плануючымі органамі не ўлічваюцца.

Як бачыце, становішча яўна ненармальнае, і яно стварае павышаную сацыяльную напружанасць. Мы пастаянна ставілі гэтыя пытанні перад Дзяржпланам СССР, Дзяржаграпромам СССР, было даручэнне Палітбюро ЦК КПСС, аднак практычных мер пакуль што не прынята. Лічым, што саюзныя пастаўкі неабходна скарэкціраваць з улікам нашых страт і дадатковай патрэбнасці ў забеспячэнні насельніцтва пацярпеўшай тэрыторыі. Наша насельніцтва трапіла ў бяду не па сваёй волі, і яго інтарэсы павінны быць абаронены.

Не ў поўнай меры вырашаны пытанні грашовай дапамогі насельніцтву па прычыне абмежавання спажывання прадуктаў харчавання з асабістых падсобных гаспадарак грамадзян. Асабліва ў цяжкім становішчы аказаліся людзі пенсіённага ўзросту. Звыш 40 тысяч пенсіянераў, якіх закранула бяда Чарнобыля, маюць пенсіі, ніжэйшыя за сярэдні пражытачны мінімум — каля 50 рублёў, а больш дакладна — 47 рублёў. З такой грашовай дапамогай у нармальных умовах пражыць вельмі цяжка, а ў нашых — тым больш. Хутчэй вырашыць гэта пытанне — наш абавязак. І, вядома ж, наша сумленне.



Група дэпутатаў ад Беларусі ў перапынку паміж пасяджэннямі.

Вы выдатна разумееце, наколькі востра стаіць пытанне аб высокакваліфікаваным медыцынскім абслугоўванні нашага насельніцтва. Неабходнае будаўніцтва па стварэнню адпаведных медустаноў вядзецца, але начыніць іх няма чым. Па-ранейшаму не хапае медыцынскага абсталявання, інструментаў, медыкаментаў. Пры цяперашніх падыходах айчыннае абсталяванне мы атрымаем не хутка. Адзіны выхад — набыць яго за рубяжом. Мы выдатна разумеем і ведаем, што валюты лішняй у краіне няма, але, улічваючы незвычайнасць сітуацыі, яе трэба адшукаць.

Ёсць праблемы ў справе аздараўлення насельніцтва і асабліва дзіцячага. Мы пачалі стварэнне ўласнай базы за межамі вобласці, але без дапамогі звонку нам гэту задачу не вырашыць. Неаднаразова ўзнімаліся пытанні забеспячэння насельніцтва асабістымі дазіметрамі і іншымі кантрольнымі прыборамі. Па гэтаму пытанню таксама давалася даручэнне Палітбюро ЦК КПСС, а дазіметраў і прыбораў па-ранейшаму няма. Нам здаецца, што настаў час за гэта сур'ёзна ад сяго-таго запатрабаваць.

Па прычыне забруджанасці значнай часткі лясных масіваў і тарфянікаў штогод скарачаюцца нарыхтоўка дроў і вытворчасць торфабрыкету. Дэфіцыт паліва, якое нарыхтоўваецца вобласцю, да сярэдзіны трынаццатай пяцігодкі складзе больш як 40 працэнтаў. Даная акалічнасць, а таксама медыка-санітарны рэжым тэрыторыі патрабуюць неадкладна пачаць суцэльную газіфікацыю вобласці. Для своечасовага вырашэння чарнобыльскай і іншых вострых сацыяльных праблем нам неабходна значна больш актыўна весці жыллёвае і сацыяльна-бытавое будаўніцтва. Мы не просім прысылаць да нас будаўнікоў з іншых рэгіёнаў краіны. Але ў такой сітуацыі лічым неабходным з будучага года вызваліць нас ад будаўніцтва жылля ў Цюмені і практычна прыпыніць прамысловае будаўніцтва ў вобласці.

Спіс нявырашаных пытанняў і праблем вялікі, але ён мог бы быць значна карацейшым, калі б больш актыўна працавала ўрадавая камісія СССР па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, калі б яна займалася не толькі атамнай электрастанцыяй, а ўсёй пацярпеўшай тэрыторыяй. Цяпер гэты спіс трэба прывесці ў сістэму. Па кожнаму пункту вызначыць меры, тэрміны, выканаўцаў і сродкі. Улічваючы, што ліквідацыя вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС справа працяглая, абавязковы ўдзел саюзных органаў. Лічым, што ёсць пільная неабходнасць у гэтым годзе на падставе аналізу зробленага і навуковых прагнозаў распрацаваць у краіне «Комплексную дзяржаўную праграму СССР па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС». А для таго каб гэты дакумент быў абавязковым для ўсіх, яго неабходна зацвердзіць у Вярхоўным Савеце Саюза ССР.

### Дэпутат З. ТКАЧОВА, загадчыца аддзялення Слаўгарадскай цэнтральнай раённай бальніцы:

На сённяшні дзень у жыхароў гэтых раёнаў адабралі чыстую зямлю, ваду, паветра, лясы і лугі, без чаго чалавек не можа жыць, але можа толькі існаваць. У прэсе, у афіцыяльных заключэннях Міністэрства аховы здароўя, у «Правде» за 29 мая 1989 года няма належнай занепакоенасці за здароўе людзей і лёс будучых пакаленняў. Падобная аварыя здарылася ўпершыню, і таму няма вопыту назірання ў сусветнай практыцы. Так, у агульнай структуры захворванняў істотных змен пакуль што не адбылося, хоць ужо ёсць першыя прадвеснікі: нараджэнне дзяцей з прыроджанымі катарактамі, зніжэнне вастрыні зроку, напружанасць імунітэту, павелічэнне колькасці анемій, інфарктаў міякарда. Нам рана сёння апераваць лічбамі, мы гэта будзем рабіць праз 10—15 гадоў. Цяпер неабходна звярнуць увагу на якасны бок захворванняў, гэта значыць на іх працяканне. І я лічу, што на сённяшні дзень гэта пытанне абсалютна не вывучана, таму што яно не адлюстравана ні ў адной справаздачы. Вучоныя-біёлагі, каб вывучыць паводзіны жывёлін, пасяляюцца побач з імі і жывуць гадамі. Так павінны рабіць і вучоныя-медыкі. Тыя скаргі, з якімі звяртаецца да нас насельніцтва гэтых раёнаў — недамаганне, павышаная стамляемасць, галаўны боль, сухасць у роце, не ўкладваюцца ні ў адну назалагічную адзінку захворванняў.

Лічу, што вучоныя не справіліся з той задачай, якая на іх была ўскладзена. Гэта датычыць і медыкаў, і біяфізікаў. І ці не лепш было нам звярнуцца за дапамогай да зарубежных вучоных, у якіх і апаратура больш надзейная, і вопыту больш. Сёння ж вырашаецца лёс не асобнага рэгіёна, а беларускай нацыі ў цэлым.

Неабходна сказаць, што ацэнка ўрачоў-практыкаў стану здароўя насельніцтва, якое пражывае ў забруджаных раёнах, усё больш разыходзіцца з ацэнкай вучоных-медыкаў і кіраўнікоў аховы здароўя краіны. Я гэту розніцу магу параўнаць, таму што ўжо многа гадоў жыву на гэтай тэрыторыі і бачу змяненні ў стане здароўя людзей да аварыі і пасля яе. Спецыялісты, якія прыязджаюць да нас, асабліва высокіх рангаў, прабыўшы некалькі гадзін або сутак, спрабуюць даказаць нам, што стан здароўя людзей не пагаршаецца. Наяўныя змены яны тлумачаць нітратамі, дрэнным харчаваннем, адсутнасцю груднога выкормлівання, а не наяўнасцю радыеактыўнага фактару. Але ўсё гэта было і раней. І мы маглі б сказаць ім, што гэтыя фактары могуць толькі ўзмацніць шкодны эфект радыяцыі, але зусім не замяніць.

На жаль, Акадэмія навук СССР і каардынацыйны цэнтр пры яе прэзідыуме самаўхіліліся ад гэтай складанай і надзвычай важнай праблемы. Вымушае жадаць лепшага арганізацыя і забеспячэнне медыцынскай службы.

Мы ўжо не гаворым пра тое, абавязковае, што рэкамендуецца, — аб забеспячэнні насельніцтва чыстымі прадуктамі харчавання. Не выконваюцца рэкамендацыі па абавязковаму штогадоваму аздараўленню дзяцей за межамі рэспублікі. Мне, як і іншым дэпутатам, уяўляецца, што на сённяшні дзень мы не можам даць гарантыі бяспечнага пражывання на тэрыторыі забруджаных раёнаў. Больш таго, вучоныя Інстытута біяфізікі Міністэрства аховы здароўя СССР прадказваюць дадатковае павелічэнне злаякасных утварэнняў — лейкемій, прыроджаных анамалій, хоць і ў невялікім працэнце выпадкаў. Аднак для кожнага чалавека, які там жыве, дастаткова мінімальнай долі працэнта.

Усё гэта стварае напружанасць абстаноўкі ў гэтых рэгіёнах. Мы лічым мэтазгодным правесці планавае паэтапнае перасяленне з забруджаных раёнаў, таму што жыццё паказвае, што не мы кіруем сітуацыяй, як нам гэтага хацелася б, а яна намі. На сустрэчы з выбаршчыкамі людзі патрабавалі вырашыць пытанні адсялення, бо ў цяперашні момант людзі працягваюць пражываць там, дзе сумарная доза апрамянення перавышае канцэпцыю бяспекі ў 35 бэр.

Я не магу забыць вочы сваіх выбаршчыкаў у час сустрэч, якія патрабавалі неадкладнага адсялення. Мы прапануем ім дзяржаўную каўбасу, індывідуальныя дазіметры, прапануем ім трактары з герметычнымі кабінамі. Ім нічога гэтага не трэба. Яны прасілі хутчэй адсяліць, каб можна было жыць нармальным жыццём, каб мець свой прысядзібны ўчастак, каб займацца гаспадаркай. Страшна проста аб гэтым успамінаць.

Людзі патрабуюць кампенсаваць ім урон, нанесены ў выніку чарнобыльскай аварыі, за кошт дзяржавы. Патрабуюць устанавіць скарочаны працоўны стаж працуючым на вытворчасцях, у арганізацыях, лячэбных установах, школах, калгасах і саўгасах, зыходзячы з умоў шкоднасці радыеактыўнага забруджання. Патрабуюць рабіць даплату са сродкаў міністэрстваў і ведамстваў у памеры 10 працэнтаў да службовага акладу або да тарыфнай стаўкі за кожны год работы, пачынаючы з 1 мая 1986 года ўсім рабочым і служачым на тэрыторыях забруджаных раёнаў. Рабіць даплату непрацуючым пенсіянерам і непрацуючым членам сем'яў па 30 рублёў у месяц, з дзяржбюджэту. Рабіць даплату працуючым пенсіянерам у памеры 25 працэнтаў тарыфнай стаўкі або службовага акладу за кошт сродкаў міністэрстваў і ведамстваў. Маці з дзецьмі да трох гадоў, дашкольныя ўстановы і школы з вучнямі да 14 гадоў з настаўнікамі, поварамі, медработнікамі пасля заканчэння вучобы вывозіць з зоны заражэння для аздараўлення тэрмінам на тры месяцы за кошт дзяржбюджэту, пабудаваць у чыстай зоне за кошт дзяржбюджэту аздараўленчы цэнтр для ўсіх працуючых у забруджанай зоне. Прадукты харчавання пастаўляць толькі чыстымі ад радыеактыўнага заражэння, павысіць эфектыўнасць дэзактывацыйных работ, паскорыць будаўніцтва дарог, электраліній і газапровода, на што накіраваць асноўныя сілы і сродкі.

Мы завяршаем распрацоўку дзяржаўнай праграмы на 1990—1996 гады, якая прадугледжвае адсяленне людзей, дзе немагчыма жыць, і ажыццяўленне комплексу мерапрыемстваў па пераходу да звычайнага ўкладу жыцця. Мы спадзяёмся, што наваствораны ўрад разгледзіць і зацвердзіць гэту праграму. Для выканання яе запатрабуецца нямала капіталаўкладанняў, асвоіць якія ва ўзнікшай абстаноўцы рэспубліка не ў стане. У сувязі з гэтым мы просім ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР аказаць нам неабходную дапамогу. Улічваючы асаблівую значнасць і доўгатэрміновасць пытанняў па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, патрабуецца, на нашу думку, стварэнне ў краіне пастаянна дзеючага органа, каб не вырашаць гэтыя пытанні на грамадскіх асновах, як гэта робіцца цяпер. Гэта можа быць надзвычайная камісія і намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР па гэтых пытаннях.

## ДНЕПР, ЯКІ НЕ ПАДЗЯЛЯЕ, А ЗВЯЗВАЕ ДЗВЕ РЭСПУБЛІКІ

# МОСТ ДРУЖБЫ

ДАЎНО трэба было пабудаваць гэты мост праз раку Днепр, якая непадалёку ад горада Чарнігава раздзяляла Беларусь і Украіну.

Час ад часу збіраліся ўзвесці новую пераправу, але нейкія, як здавалася, больш важныя аб'екты прыцягвалі да сябе ўвагу будаўнікоў, мясцовых улад. Паступова старэнькі драўляны мост прыйшоў у заняпад, паром не спраўляўся з перавозкай людзей і грузаў. Усё часцей ад жыхароў абедзвюх рэспублік чуліся патрабаванні пабудаваць новы сучасны мост.

Лістападаўскім змрочным днём Аркадзь Забела прыехаў агледзець месца мяркуемых работ. У кішэні ляжаў загад міністра СССР аб будаўніцтве моста, а на душы было неспакойна. Аркадзя Пракопавіча вельмі непакоілі тэрміны будаўніцтва — усяго два гады на такі аб'ект! Яшчэ ў Мінску яны здаліся яму, вопытнаму маставіку больш чым з дваццацігадовым стажам работы, нерэальнымі, як кажуць, узятымі са столі высокага міністэрскага кабінета. А цяпер тут, на правым беразе Дняпра, увогуле стала страшна: не паспеем. Маляўнічы від ракі выклікаў складаныя пачуцці, сярод якіх было ўсё, акрамя захаплення яе прыгажосцю. Перад Забелам быў працаўнік, да якога нават падысці цяжка. У той дзень гэта і не ўдалося: перашкаджала вада. З абодвух берагоў доступ да ракі надзейна прыкрывалі, быццам ахоўвалі ад чужога ўмяшання, суцэльныя затокі шырынёй 100—150 метраў. Каб пераадолець толькі іх, трэба будаваць часовыя масты і пераезды, арганізаваць гідраналіў пяску для стварэння насыпаў, дамб і замыўкі праток. І сам Днепр, хуткі і глыбокі, шырокі (больш за 600 метраў), капрызны і каварны ў час паводак, проста так не скорыцца. «Сапраўды,— прыгадалася Забелу літаратурная класіка, — «рэдкая птушка даляціць да сярэдзіны Дняпра...»

З цяжкімі думамі вяртаўся Забела дадому. Праектная дакументацыя яшчэ толькі распрацоўвалася ў Ленінградзе, а яго, начальніка мостатрада з Мінска, ужо паспелі азадачыць: не марудзь, хутчэй разгортвай работы. Казённага аптымізму ён тады не выказваў і запэўніваць не спяшаўся — маўляў, усё зробім як след. Але паабяцаў зрабіць усё магчымае.

Такога моста не было ні ў жыцці Забелы, ні ў кога іншага з атрада. Да справы прыступілі энергічна, з цікавасцю. У сваю чаргу кіраўнікі атрада імкнуліся стварыць для рабочых у вахтавым пасёлку на беразе Дняпра па магчымасці найбольш зручныя ўмовы жыцця.

Задачка таксама не з простых. Меркавалася, што ў пасёлку ў залежнасці ад абставін будуць жыць 250—300 чалавек, якім пасля нялёгкай работы, іншы раз пад пякучым сонцам ці на моцным марозе з ветрам, трэба прыняць душ, смачна і сытна паесці, добра адпачыць, карацей кажучы, аднавіць сілы.

Будаўнікі жылі ў зручных, цёплых зборных доміках, якія зімой абагравалі дзве кацельні. Карысталіся водаправодам з чыстай [illegible] ўсіх адносінах вадой, [illegible]льняй, лазняй, добра і бясплатна тройчы ў дзень харчаваліся ў сталовай. У кіёску «Саюздруку» прадаваліся свежыя газеты і часопісы, у большасці жылых пакояў [illegible]лі тэлевізары.

Я не дарэмна раблю на гэтым акцэнт. Мы яшчэ нядаўна любілі занадта часта паўтараць: усялякая справа чалавекам трымаецца. Гэта, безумоўна, так. Але як часта эксплуатаваўся энтузіязм людзей, асабліва моладзі. Колькі гучных слоў было пра гераізм і адвагу тых, хто ў глухіх кутках адкрываў чарговую ўдарную будоўлю. І сарамліва маўчалі, калі гэтыя маладзёжныя атрады паступова раставалі, а іх «байцы» раз'язджаліся па дамах, бо ім абрыдла начаваць у сырых палатках, есці абы што, бясконца чакаць абяцаных нармальных умоў жыцця.

Справа добра трымаецца чалавекам дагледжаным, задаволеным узроўнем свайго абслугоўвання, арганізацыяй адпачынку і быту.

Побач з вахтавым пасёлкам у хуткім тэмпе ствараласяя паралельна вытворчая база, інфраструктура будоўлі. Гэтая эпапея магла стаць тэмай асобнай размовы. Уявіце сабе кропку ў чыстым полі, да якой няма ніякіх камунікацый (калі не лічыць Днепр) і дзе трэба было наладзіць бесперабойную работу двух бетонных заводаў, рамонт машын і механізмаў, паставіць сховішча і г.д. Разлічваць прыходзілася толькі на сябе, бо да бліжэйшага буйнога горада Чарнігава — 60 кіламетраў.

Дадайце сюды неабходнасць пракласці пад'язныя дарогі, правесці да левага і правага берагоў электрычнасць, арганізаваць прыёмку грузаў на чыгуначных станцыях, шчэбеню і пяску водным шляхам, пабудаваць магутныя стапелі для зборкі і надзвіжкі пралётных збудаванняў. Акрамя таго, дамовіцца, каб у патрэбны момант пад рукой знаходзіліся баржы, ледаколы, буксіры, брандвахта (гасцініца на вадзе), плывучыя краны.

Усімі праблемамі даводзілася займацца амаль адначасова і, як у нас здаўна водзіцца, бясконца вырашаць вострыя пытанні, якія ўзнікалі адно за адным. Але ў атрадзе ўмелі засяродзіцца на ўзнікшай раптоўна праблеме, разгледзець яе з розных бакоў і нярэдка выбраць нечаканае, яшчэ не апрабаванае ў практыцы, нестандартнае рашэнне. І такім чынам значна выйграць час, зэканоміць вялікія матэрыяльныя рэсурсы і сродкі.

На пытанне, што рухала ім і яго таварышамі на гэтай дняпроўскай будоўлі, прараб А. Радзейка пасля невялікай паўзы сказаў:

— І «гонар мундзіра» таксама, у значнай ступені. Ведаеце, не было раней выпадку, каб наш атрад не ўклаўся ў тэрміны будаўніцтва, сарваў увод аб'екта, падвёў каго-небудзь. У нас трывалая рэпутацыя сур'ёзных партнёраў.

У мостабудаўніцтве няма лёгкіх ці другарадных аперацый. Кожная павінна выконвацца строга па тэхналогіі. Кантроль за якасцю работ шматкратны і самы што ні на ёсць жорсткі. Але, бадай, самы адказны момант — узвядзенне апор, асабліва руславых [illegible]дзе. І даволі частыя [illegible]адбачаныя сітуацыі. Бо невядома, які там пад вадою грунт. Бывае, адну свідравіну бураць дзень, другую — тыдзень, а калі не «пойдзе», то і месяц можна рабіць. На Дняпры [illegible] трымлівалася ўсё больш-м[illegible] гладка. Нармальна прайшлі нулявую апору, першую, другую, трэцюю... На чацвёртай, 25-метровай глыбіні, зламаўся бур. А па праекту, адхіляцца нельга ні ў якім разе, неабходна было забурыцца на 30 метраў. Прыйшлося на месца выклікаць праекціроўшчыкаў і разам пасля дадатковых даследаванняў грунту прымаць рашэнне: у гэтым месцы трываласць грунту дазваляе ставіць апору на меншай глыбіні. Недасведчанаму чалавеку гэта можа здацца дробяззю. Але пакуль усё высветлілі — страцілі месяц.

Калі час не прыспешвае, апоры будуюць звычайна па чарзе. Узвядзенне адной расцягваецца на некалькі месяцаў — настолькі гэта складанае збудаванне. На Дняпры, дзе трэба было паставіць 12 велізарных апор, такі спосаб, зразумела, не падыходзіў. Таму вырашылі ставіць аднachasова некалькі апор, будаваць мост адразу з левага і правага берагоў. Становішча ўскладнялася тым, што на рацэ ішоў інтэнсіўны рух, які маставікі не мелі права парушаць.

Аднак усё ж прыйшлося часткова перагарадзіць Днепр, што яму, натуральна, «не спадабалася». Неўзабаве рака адпомсціла. З хуткасцю ўрывалася вада ў больш вузкае рэчышча і поўнасцю змывала пясок, які адсыпалі пад невялічкі астравок, дзе меркавалі ўзводзіць пятую апору. Колькі ні сыпалі — усё дарэмна. Вось дзе сапраўды час знікаў, як вада ў пяску. Выручыў магутны земляны снарад з Кіеўскага параходства, і хутка ў вызначаным месцы ўзвышаўся такі жаданы кавалачак сушы.

Маставікам з ахвотай дапамагалі рачнікі Гомеля. Побач у розныя перыяды будаўніцтва працавалі спецыялісты са Смаленска, Віцебска, Рыгі, будаўнікі-транспартнікі з Кіева. Так што ў поўным сэнсе слова гэта была інтэрнацыянальная будоўля.

Праезд па мосце быў адкрыты 4 лістапада 1988 года. Загад аб будаўніцтве моста Аркадзь Забела атрымаў 4 лістапада 1986 года.

...Вечарам, калі ўключаюцца ліхтары, ад лёгкага, ажурнага кіламетровага моста нельга адарваць вока. Ён здаецца нават загадкавым, таямнічым. Хаця тайны ў ім, безумоўна, ніякай няма. Мост — вынік працы ўмелых чалавечых рук.

Л. ТУГАРЫН.

---

## САМЫЯ ВЫСОКІЯ ЗБУДАВАННІ СТАЛІЦЫ

# ПАВЕРХІ МІНСКА

З кожным годам павялічваецца плошча Мінска, яна перавышае ўжо 150 квадратных кіламетраў. З'яўляюцца новыя мікрараёны, ушчыльняецца ўнутрыгарадская забудова. Сталіца наша расце не толькі ўшырыню, але і ўвышыню. Новыя будынкі дасягаюць усё больш высокіх адзнак. Пачатак вышыннаму жыллёваму будаўніцтву ў 70-х гадах паклалі два жалезабетонныя маналіты ў мікрараёне Усход. Потым адміністрацыйныя і жылыя гмахі з'явіліся на праспекце Машэрава, на вуліцах Сурганава, Веры Харужай. Які з іх самы высокі сёння?

Найбольш сучасны і прыгожы раён у горадзе— праспект Машэрава. Менавіта тут стаяць самыя высокія дамы — комплекс адміністрацыйных будынкаў, гасцініцы «Юбілейная» і «Планета», Дом Белсаўпрофа, гасцініца «Беларусь» на беразе Свіслачы, будынак інжынерна - вылічальнага цэнтра Міністэрства бытавога абслугоўвання БССР на Юбілейнай плошчы. Гэты раён Мінска самы высокі ў горадзе — 280 метраў па абсалютнай вышыні. Будынак на Юбілейнай плошчы, хоць ён налічвае ўсяго 18 паверхаў і тэхнічную надбудову, можна лічыць найбольш высокім абсалютна.

Самыя высокія будынкі па колькасці паверхаў — 24-павярховая гасцініца «Беларусь» і новы корпус Беларускага тэлебачання на вуліцы Макаёнка, які дасягае 85-метровай адзнакі.

Але гэта яшчэ, як кажуць, не рэкорд. На 180 метраў узняліся трубы мінскіх ЦЭЦ-3 і ЦЭЦ-4, якія замянілі некалькі старых 100-метровых труб. Дыяметр іх знізу — 21, зверху — 10 метраў. Трубы мінскіх цеплаэлектрацэнтраў не намнога ніжэйшыя за самае высокае збудаванне ў рэспубліцы— 200-метровую трубу Новалукомльскай ГРЭС.

В. ФЕРАНЦ.





На «дзявочніках» у жаночы клуб «Акцябрына» збіраюцца жывёлаводы і настаўнікі, паляводы і работнікі сферы абслугоўвання. Больш дзесяці гадоў назад утварыўся ён пры раённым Доме культуры горада Іванава Брэсцкай вобласці і папулярнасці не губляе. У праграме клуба многа цікавых мерапрыемстваў. Тут можна паслухаць вершы і музыку, пагаварыць аб выхаванні дзяцей, запісаць кулінарны рэцэпт, атрымаць рэкамендацыі спецыяліста па розных пытаннях быту... Словам, адпачыць, абмеркаваць хвалюючыя жаночыя праблемы і надзённыя жыццёвыя справы. Зрэшты, кожны вечар у «Акцябрыне» — гэта маленькае свята.

НА ЗДЫМКАХ: вечар адпачынку ў «Акцябрыне»; часты госць клуба — дырэктар камбіната бытавога абслугоўвання Лілія ХАЙКО.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

### *ПРОБЛЕМЫ, КОТОРЫЕ ОБСУЖДАЛИСЬ НА СЪЕЗДЕ НАРОДНЫХ ДЕПУТАТОВ СССР*

# НАЦИОНАЛИЗМ — ОПАСНОСТЬ ДЛЯ СОВЕТСКОГО СОЮЗА?

### СЛОЖНОСТИ СОВЕТСКОЙ ФЕДЕРАЦИИ

Советский Союз был образован в 1922 году как федерация суверенных республик. Эта федерация на протяжении минувших десятилетий развивалась и видоизменялась: образовывались новые союзные республики, автономные республики, области и округа, национально-государственные образования меняли свой статус, изменялись и границы между ними. В условиях командно-бюрократической системы, сложившейся в период сталинизма и продолжающей здравствовать и после смерти Сталина, права и возможности каждой единицы были разложены по полочкам. От статуса национально-государственного образования стало зависеть очень многое — бюджетные ассигнования, выделяемые из централизованных фондов материальные ресурсы, штаты учреждений и т. д. В результате сегодня, например, власти Татарской автономной республики (она входит в состав РСФСР) для того, чтобы соорудить памятник в своей столице Казани, вынуждены обращаться в правительство РСФСР, которое им диктует: монумент в полный рост ставить нельзя — слишком дорого...

Наследие сталинизма — это не только гипертрофированный централизм и бесправие местных органов власти. Это еще и обида за историческую несправедливость, которая живет в сердцах целых народов. По своему «высочайшему» усмотрению Сталин объявлял целые народы «неблагонадежными» и обрекал их на репрессии и лишения. Были переселены из родных мест в другие районы, мягко говоря, с минимальным комфортом, из-за чего многие люди погибли, немцы Поволжья, крымские татары, народности Северного Кавказа — чеченцы, балкарцы, карачаевцы и др., значительное число прибалтийцев, корейцы, турки-месхетинцы и т. д. Сегодня крайне трудно решать вопросы их массового возвращения на историческую родину — ведь там уже живут другие люди. Нелегкий вопрос — возможное воссоздание ликвидированных Сталиным автономий, таких, как автономные республики немцев Поволжья и крымских татар.

Вообще изменение административно-территориального деления в многонациональном государстве, пересмотр межнациональных границ — дело крайне трудное, чреватое осложнениями, и, как показывает мировой опыт, малоперспективное. Взять, к примеру, Среднеазиатские республики: границы между ними в довоенные десятилетия менялись, и весьма значительно. Один из результатов этих изменений — наличие в Узбекистане районов с преобладающим таджикским населением (Самаркандская, Бухарская, Ферганская, Хорезмская области). Национальная культура таджиков в Узбекистане была не в самом лучшем положении, и в эпоху перестройки власти соседнего Таджикистана вступились за своих соотечественников. Руководство Узбекистана согласилось принять такие меры, как увеличить количество таджикских школ, газет, радио- и телепередач и др. Некоторые горячие головы требуют передачи областей с таджикским большинством населения в состав Таджикистана, но разумно ли это? Узбеки с таким предложением не согласны, да и прошло уже много лет, республики устоялись в своих социально-экономических, территориально-производственных структурах.

Это — крайне важная задача: ведь примерно каждый пятый гражданин СССР живет за пределами «своего» национально-государственного образования. В условиях многонационального государства социальное недовольство легко приобретает национальную окраску. Если, допустим, в корейское село в Казахстане не проложили дорогу, а в соседнее казахское дорога сделана, это воспринимается как национальная дискриминация.

### РОСТ НАЦИОНАЛЬНОГО САМОСОЗНАНИЯ — НЕ НАЦИОНАЛИЗМ

В решениях XIX партконференции, в выступлениях Горбачева прослеживается четкий курс на децентрализацию власти, предоставление республикам и регионам более широких полномочий, поощрение национальных культур и языков. Если раньше всякое проявление национального самосознания приравнивалось к национализму, то теперь национальные чувства «легализованы». Рост национального самосознания официально, в документах партии, признан закономерным явлением в эпоху перестройки. Исчез пустой лозунг брежневских времен о советском народе как «новой исторической общности людей», прекратились попытки искусственно ускорить процесс сближения наций и растворить их в едином котле.

Раньше чиновники на местах выслуживались перед Москвой, отодвигая на задний план все национальное и усиленно внедряя русский язык. Было ли это русификацией? Вот какой ответ дают, к примеру, ученые Института языкознания Академии наук СССР в одном из недавних номеров «Литературной газеты»:

«К сожалению, извращение основного тезиса Ленина о недопустимости привилегий ни для одной нации, ни для одного языка, которое нередко имело место, уже столкнуло нас лицом к лицу с **опасностью всеобщей денационализации (а отнюдь не русификации,** как иногда думают, ведь с таким же успехом уничтожались и элементы русской культуры), которая проводилась русскоязычной командно-административной системой, естественно, на основе русского языка».

Нынешние борцы за национальное возрождение часто ошибочно уповают на действенность все тех же административных мер. Прибалтийцы уже ввели парламентскими актами государственные языки, молдаване, жители Средней Азии, татары и многие другие народы к этому стремятся. Но они забывают об опыте республик Закавказья (Грузия, Армения, Азербайджан), где уже много лет языки коренного населения имеют такой статус и где, несмотря на это, сфера их употребления неуклонно сужалась. Если сейчас едва половина татар владеет татарским языком, то для исправления этого недостаточно декретирования: нужны материальные предпосылки (школы, курсы, учителя, радио- и телепередачи, обучение через газеты и журналы), нужен отход от чрезмерной централизации, диктата московских ведомств.

Или возьмем концепцию территориальной экономической самостоятельности (республиканского хозрасчета), которую вслед за эстонцами восприняли жители многих других регионов. Вполне понятны настроения людей: от гнета московских министерств одинаково стремятся избавиться узбеки, латыши или русские, живущие где-нибудь на Камчатке. Но наивны надежды некоторых сторонников республиканского хозрасчета на то, что республиканская бюрократия окажется лучше московской. Только перевод советской экономики на здравую экономическую основу — товарно-денежные отношения, рынок, сосуществование на равноправных условиях различных форм собственности, предоставление реальной самостоятельности предприятиям и т. д.— может сделать республики и весь Союз в целом дееспособными.

### РЕАЛЬНЫЕ, НО НЕ СЛИШКОМ РАДИКАЛЬНЫЕ ШАГИ

В марте был опубликован для всенародного обсуждения проект закона, который предусматривает значительное расширение прав союзных республик и местных органов власти в области руководства экономикой и социальной сферой. Он обяжет предприятия союзного подчинения (а в некоторых республиках они составляют более 90 процентов всей промышленности) отчислять часть прибыли в местные бюджеты, даст органам власти на местах право самостоятельно формировать бюджет территории, вводить и отменять налоги, передаст в ведение республик здравоохранение, образование, культуру, туризм, строительство, торговлю, сельское хозяйство, местный транспорт, легкую промышленность, природоохранную деятельность и т. д. Это — плюсы нового документа, но есть и минусы. Республики будут сами формировать бюджет, но нормативы этого формирования определяет центр. Местные органы власти смогут применять санкции (вплоть до закрытия предприятий) к нарушителям экологического режима, но деньги на природоохранную деятельность предприятия будут вносить на добровольной основе. Кроме того, центр оставляет под своим контролем ключевые отрасли, основу экономической власти.

В области национальных отношений сегодня делаются реальные и вполне ощутимые шаги вперед. Возможно, они не всегда бывают достаточно радикальными, но и поспешность в этих вопросах может принести вред. Этими проблемами обстоятельно займется постоянно действующий Верховный Совет СССР.

**Илья БАРАНИКАС.**

### ИНИЦИАТИВУ БЕРЕТ В СВОИ РУКИ ОБЩЕСТВЕННОСТЬ

# *ЗАКОН О ПЕЧАТИ*

ОДНО из московских издательств выпустило в свет уникальную брошюру — «Закон о печати и других средствах массовой информации. Инициативный авторский проект». Уникальную потому, что опубликованный в ней проект закона напечатан — впервые в нашей практике — до появления официального проекта. Кроме того, подобного закона в истории страны еще никогда не было. И наконец, проект этот имеет конкретных авторов, чего опять-таки раньше не бывало. По просьбе корреспондента АПН это событие комментируют создатели законопроекта кандидаты юридических наук Юрий БАТУРИН, Михаил ФЕДОТОВ и Владимир ЭНТИН.

— Обещанного, говорят, ждут не менее трех лет. Закона о печати, о котором шла речь еще в ленинском Декрете о печати, страна ждет уже свыше семи десятилетий. Время от времени в «высших» сферах возникало желание украсить нашу «витрину» подобным законом, но дальше хотения дело не двигалось. Собственно говоря, в годы господства в стране командно-бюрократической системы особой нужды в нем не было: ведь правовые методы влияния на прессу с успехом заменялись тогда силовыми. Сейчас положение изменилось.

Уже в 1986 году было принято решение подготовить проект закона о печати и назван даже срок — четвертый квартал того же года. И вот в заинтересованных ведомствах заскрипели перья: на свет родился первый вариант проекта. Впоследствии он не раз перерабатывался и дорабатывался, но то, что было в нем изначально заложено, обладало удивительной способностью к самосохранению. Наши же предложения и поправки — а мы, как специалисты, привлекались к работе над официальным проектом — в основном отвергались. Сразу же или немного погодя. Почему? Да просто потому, что они не укладывались в прокрустово ложе изначально заложенной концепции. Поняв это, мы решили создать свой собственный проект.

Свой проект мы назвали «инициативным авторским», потому что взялись за его подготовку не по чьему-либо поручению, трудились над ним в свое свободное от основной работы время. И все, что записано в статьях проекта, отражает только наше собственное мнение, а не позицию тех институтов, где мы работаем.

Теперь о содержании самого проекта. Он имеет краткую преамбулу, семь его глав объединяют 58 статей. Помимо общих положений проект содержит нормы, касающиеся организации деятельности средств массовой информации, распространения массовой информации, отношений редакций с организациями и гражданами, прав и обязанностей журналиста, международного сотрудничества в области массовой информации, ответственности за нарушение закона.

Мы полагаем, что закон о печати должен быть актом прямого действия, т. е. исполняться непосредственно и не требовать конкретизации в различного рода инструкциях. Иначе обеспечение подлинной свободы печати окажется отдано на откуп чиновникам. Чтобы закон не превратился в набор благих пожеланий, следует установить четкий порядок: кто, куда и по каким поводам обращается, как разрешаются споры, какая существует ответственность за нарушение предписаний закона.

Одна из проблем касается существования цензуры. При разработке своего проекта мы исходили из того, что в правовом государстве цензура недопустима, а контроль за тем, как пресса соблюдает советские законы, должен быть возложен на суд.

Еще один важный вопрос: кому должно быть предоставлено право учреждать собственные средства массовой информации? В полном соответствии с итоговым документом Венской встречи мы назвали среди обладателей этого права не только государственные и общественные организации, но также кооперативы, объединения граждан и отдельных граждан. Для реализации указанного права следует подать заявление в тот исполнительно-распорядительный орган власти, на территории которого предполагается распространять продукцию данного средства массовой информации. В месячный срок заявителю должно быть выдано свидетельство об учреждении того или иного средства массовой информации. Возможен, разумеется, и отказ (например, в том случае, если заявление подано недееспособным лицом). Но каковы бы ни были основания отказа, он может быть обжалован в органы конституционного надзора. Почему именно туда? Да потому, что речь идет о защите конституционных прав граждан — на свободу слова и печати.

Для работы журналистов принципиально важным является вопрос о праве на информацию. Исходя из того, что просто декларировать такое право явно недостаточно, мы записали в проекте подробную процедуру получения сведений от государственных органов, общественных организаций и должностных лиц. Информацию обязаны предоставлять руководители этих органов и организаций, их заместители, работники пресс-служб или другие уполномоченные лица. Отказ в информации возможен только, если она содержит сведения, составляющие государственную тайну. Попутно заметим, что мы считаем необходимым обеспечить журналистам возможность получать и такую несекретную информацию, которая содержит, например, врачебную тайну, тайну усыновления, тайну следствия и т. д.

Помимо отказа в предоставлении информации проект допускает отсрочку. Однако в любом случае отрицательный ответ должен быть дан журналисту в трехдневный срок и в письменной форме: его обоснованность может быть оспорена в суде, который в свою очередь вправе подвергнуть излишне «скрытное» должностное лицо административному взысканию. В ближайшее время пять тысяч экземпляров брошюры будут розданы всем тем, от кого в той или иной степени зависит судьба будущего закона о печати.

